# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Чацвер, 8 красавіка 1993 года

№ 41 (10592)

Цана 5 руб.

## Даражэй не значыць -- лепш

**Калі прадаваць хлеб па сабекошту, то за кілаграм яго трэба было б выкласці 71 рубель, а за літр малака -- 44 рублі, у той час як фіксаваныя цэны на гэтыя прадукты да 5 красавіка складалі адпаведна 12,3 і 6 рублёў.**

Падтрыманне цэн на нізкім узроўні патрабуе велізарных бюджэтных датацый. Толькі ў першым квартале г.г. на датаванне вытворчасці хлеба і малочнай прадукцыі накіравана больш чым 25 мільярдаў рублёў.

Рознічныя цэны аднаго літра малака цяпер у 7--10 разоў ніжэйшыя за кошт безалкагольных напіткаў, у 10 разоў -- бензіну. У нашых бліжэйшых суседзяў рознічныя цэны на асноўныя прадукты харчавання значна вышэйшыя. Так, у Літве адзін кілаграм чорнага хлеба каштуе 35--53, белага -- 65--76 рублёў, літр малака -- 71 рубель, у Смаленску -- адпаведна 30, 60 і 36, у Бранску -- 21, 52, 60, у Маскве -- 27, 75 і 80 рублёў. Аналагічнае становішча і па маслу. У суседніх рэгіёнах яго кошт вагаецца ад 730 да 1.200 рублёў за кілаграм.

З мэтай набліжэння цэн да рэальных затрат на вытворчасці і было прынята рашэнне аб павышэнні з 5 красавіка 1993 года дзяржаўных рознічных цэн на хлеб і хлебабулачныя вырабы, малако і малочную прадукцыю (выключаючы смятану і тварог) у сярэднім у тры разы і на масла -- на 70 працэнтаў. Павялічаны ў 2 разы закладныя цэны на шклатару.

**ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ**

## ХЛЕБНЫ БУМ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Такіх доўгіх чэргаў ля хлебных крам Слуцк не бачыў з далёкіх саракавых-пяцідзесятых гадоў.**

Людзі становяцца на "вахту" за гадзіну да адкрыцця магазіна. У адны рукі адпускаюць дзве-тры буханкі чорнага і дзве -- белага.

Не, мясцовы хлебазавод не скараціў выхад прадукцыі -- печы задзейнічаны цэлыя суткі, хлеба выпякаюць нават больш, чым месяц назад. Так, у лютым яго паступіла ў продаж 1.416 тон, у сакавіку -- каля 1.600, або па пяцьдзесят тон штодзённа. Амаль палавіну спажывае горад, хоць раней столькі хлеба магазіны не заказвалі.

Што ж выклікала хлебны ажытаж з нервовымі доўгімі чэргамі? Многія гараджане закупілі на базары парсючкоў. А чым карміць іх? Камбікорму днём з агнём не знойдзеш, не маюць яго і сельскія жыхары, раней ім хоць за прададзенае малако сёе-тое выдзялялі.

Вось і ідзе духмяны жытнік у карыты -- свінням, кароўцы, птушцы. Аднойчы ў аддаленай вёсцы стаў сведкам, калі яе жыхары, пераважна пенсіянеры, бралі ў сельмагу па 15--20 буханак, скідваючы іх прама ў мяхі.

Многія вяскоўцы, асабліва пенсіянеры, карыстаючыся правам бясплатнага праезду на прыгарадных аўтобусах, прыязджаюць у горад і становяцца ў хлебныя чэргі па некалькі разоў -- пакуль не набяруць па поўнай торбе. Ды і калі б з"явіўся ў продажы доўгачаканы камбікорм, то цана яго -- 25--30 рублёў за кілаграм. А буханку хлеба можна набыць за дзевяць рублёў. Селяніна не трэба вучыць, што выгадней для адкорму вепрука.

Каб неяк збіць ажытаж, на хлебазаводзе сталі выпякаць чарэневы хлеб з кменам па цане 38 рублёў. Ён таксама разыходзіцца, бо калі пустыя паліцы, то і дарагі жытнік -- знаходка.

М.ТЫЧЫНА.

**АД АЎТАРА. Цяпер, калі цана на хлеб вырасла ўтрая, чэргі хоць і паменшыліся, але не зніклі, таму што праблема з камбікармамі так і не вырашана.**

## Тры дні адпачынку

***Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь перанёс дзень адпачынку з суботы 24 красавіка на панядзелак 26 красавіка 1993 года.***

## ЛЕПШ РАЗ УБАЧЫЦЬ

**Нядаўна адбыўся абласны семінар галоўных медыцынскіх сясцёр тэрытарыяльных медыцынскіх аб'яднанняў (ТМА), які праходзіў на базе Барысаўскай цэнтральнай раённай бальніцы.**

Барысаўская ЦРБ лічыцца адной з лепшых медыцынскіх устаноў Міншчыны, і госці пераканаліся ў гэтым самі, пазнаёміўшыся з практыкай работы барысаўскіх калег. А ў аддзяленні функцыянальнай дыягностыкі ўбачылі адзіную пакуль у вобласці унікальную апаратуру для вызначэння захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы "Медыяна-1", а таксама навейшую ўстаноўку для вакуум-масажу "Аладэк-4М" і некаторыя іншыя навінкі.

З аналізам рэалізацыі рэкамендацый "дня галоўнага ўрача" ў Слуцкім раёне, а таксама першых крокаў дзейнасці створанага не так даўно абласнога Савета сярэдніх медыцынскіх работнікаў пазнаёміла ўдзельнікаў семінара яго старшыня, галоўная медсястра вобласці В.Івашка. Галоўная медсястра Барысаўскага РТМА (раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання) Н.Брысюк падзялілася вопытам кіраўніцтва работай сярэдняга медперсаналу, а яе калега па рабоце галоўная няштатная працэдурная медсястра Барысаўскай ЦРБ Л.Пясляк расказала аб ўкараненні тэхналогіі медыцынскіх маніпуляцый і працэдур. У рабоце семінара прымалі ўдзел намеснік загадчыка абласнога аддзела аховы здароўя А.Цыбін, галоўная медсястра Мінскага РТМА В.Ляшчэня, галоўная медсястра абласной дзіцячай клінічнай бальніцы З.Багдановіч і іншыя.

Мікалай ЧАЛЕЙ.

## КАЛІ Б НЕ ІНФЛЯЦЫЯ...

**Ці з"яўляюцца па цяперашнім часе 100 рублёў грашыма, дзеля якіх можна пайсці на аграбленне?**

Выпадак, які адбыўся з калгаснікам С., сведчыць аб тым, што і такая сума здольна прыцягнуць рабаўнікоў да яе ўладальніка. Тры невядомыя забралі ў калгасніка гэтыя няшчасныя 100 рублёў красавіцкай раніцай на станцыі Слуцк, пасля чаго былі затрыманы супрацоўнікамі мясцовай міліцыі.

РІД.

## НЕ ХАВАЙЦЕ ДОЛАРЫ Ў СКАРБОНКІ!

**Нашы грамадзяне, якія маюць на руках валюту, набудуць, нарэшце, доўгачаканую свабоду ў выкарыстанні сваіх сродкаў на рахунках банкаў.**

Згодна з зацверджаным палажэннем, банкі залічваюць іх сродкі без абмежаванняў па сумах і крыніцах паходжання. Будуць адкрывацца два віды валютных рахункаў: тыпу "А" і "Б". На рахункі тыпу "А" залічваюцца валютныя сродкі, законнасць якіх грамадзяне могуць пацвердзіць дакументальна. З уладальнікаў такіх рахункаў знімаюцца ўсе абмежаванні ў выкарыстанні валюты, аж да пераводу яе ў замежныя банкі. Тыя ж, хто не можа або не жадае прад'яўляць дакументы аб паходжанні валюты, змогуць адкрыць рахунак тыпу "Б". Уладальнікі гэтых рахункаў таксама могуць свабодна распараджацца валютнымі сродкамі, што знаходзяцца на іх рахунку, аднак толькі на тэрыторыі рэспублікі.

-- Цяпер, паводле нашых звестак, на руках у насельніцтва знаходзіцца валюты на суму каля паўтары сотні мільёнаў долараў ЗША, -- сказаў, каменціруючы гэтае палажэнне, першы намеснік старшыні Нацыянальнага банка Мікалай Кузьміч. -- Вядома, гэтыя грошы не прыносяць ніякай карысці рэспубліцы. Таму мы і пайшлі на такія меры.

Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ.

## Паважаныя сябры!

*Працягваецца падпіска на газету "Мінская праўда". Нагадваем, што падпісная цана на яе складае:*

*на паўгода -- 402 руб.,*
*на тры месяцы -- 201 руб.,*
*на месяц -- 67 руб.*

*Справа гонару кожнага жыхара Міншчыны мець у сваім доме абласную газету.*

*Будзьце з намі!*

□ І такое бывае

## Грошы з "паветра"

**Пры рэгістрацыі ў жніўні мінулага года таварыства з абмежаванай адказнасцю "Вест-маркет" у Слуцкім гарвыканкоме прадугледжвалася, што яно будзе займацца шасцю відамі паслуг. Так заўсёды бывае, калі ствараецца любая прыватная фірма. Чаго толькі не абяцае яна -- пералік яе дзейнасці займае не адну старонку. А як толькі атрымае пасведчанне, тут жа забывае аб іх. Акрамя адной -- гандлёва-закупачнай.**

І "Вест-маркет" не выключэнне. Тавараабарот за 1992 год склаў у яго больш трыццаці мільёнаў рублёў, а прыбытак -- за мільён. Нічога тут злачыннага няма. Кожны зарабляе, як лічыць патрэбным. Пры адной умове -- не парушаючы законы і розныя інструкцыі, якія рэгулююць цэнаўтварэнне, парадак афармлення дакументаў. А тут пры пакупцы тавараў народнага спажывання і іх рэалізацыі ні ў адной накладной не ўказваюцца гандлёвыя надбаўкі і цана, па якой набыты тавар. У сваю чаргу пры аптовым продажы завышаліся гэтыя надбаўкі. Так, па дзвюх накладных атрымана незаконна 137 тысяч рублёў. У асноўным за дзіцячае харчаванне -- 125 тысяч. Прычым, цана ўстаноўлена асабіста дырэктарам, без подпісу галоўнага бухгалтара.

Давялося вярнуць у мясцовы бюджэт гэтыя 137 тысяч рублёў, ды яшчэ столькі ж штрафу.

А вось вытворча-камерцыйнае таварыства з абмежаванай адказнасцю "Бізнес-транзіт", зарэгістраванае ў сакавіку 1991 года Заслаўскім гарвыканкомам, вымушана расстацца з больш буйной сумай. Праверка, праведзеная мясцовай службай цэн, і тут выявіла грубыя парушэнні фінансавай дысцыпліны. У таварна-транспартных накладных не ўказваліся расцэнкі рэалізуемай прадукцыі. Аптовая надбаўка была завышана. Пераразлік выявіў розніцу ў 1.114.579 рублёў. Згодна з законам, яны вернуты ў бюджэт і столькі ж заплачана штрафу.

Амаль нічога не атрымалі ад малога прадпрыемства "Аўтасервіс", створанага ў канцы 1991 года ў вёсцы Нарач, аўтааматары Мядзельшчыны. Пры рэгістрацыі прадугледжваліся мыццё, афарбоўка, шынамантаж і іншыя віды рамонту асабістага і дзяржаўнага транспарту, рэалізацыя аўтамашын, выраб мэблі, пашыў адзення і выпуск іншых тавараў народнага спажывання, продаж запчастак.

Бачыце, які шырокі дыяпазон. Аднак вырашылі перш за ўсё заняцца гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасцю. "Аўтасервіс" купіў бензін на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе. Ён жа павінен прадавацца па фіксаваных цэнах, а не па камерцыйных. Розніцу ў 38 тысяч рублёў ды плюс каля 8 тысяч, незаконна атрыманых за іншыя тавары, давялося аддаць у мясцовы бюджэт.

Няведанне пастановы Савета Міністраў рэспублікі і Дэпартамента цэн аб абмежаванні надбавак на продаж прадукцыі не пазбавіла і кіраўнікоў малога прадпрыемства "Плюс" з Валожына ад адказнасці. 101 тысяча рублёў ды яшчэ столькі ж штрафу "сплыло" ад іх у дзяржаўную казну.

Сёння ўсе кінуліся ў камерцыю. У вобласці створана нямала акцыянерных таварыстваў з абмежаванай адказнасцю, асацыяцый, малых прадпрыемстваў і да іх падобных прыватных арганізацый. Што ж, рынак дыктуе свае законы. Але ж пры новых умовах гаспадарання непазбежным павінен быць і рост выпуску тавараў, ліквідацыя дэфіцыту, каб мы змаглі купіць без праблем патрэбную для сябе рэч. Дзе ўсё гэта? Не навучыліся мы яшчэ цывілізаваным формам рыначных адносін. Пры нашым разгуле дэмакратыі кожны думае не аб дзяржаўных інтарэсах, а перш за ўсё, выкарыстоўваючы свае магчымасці, імкнецца пакласці сабе ў кішэню як мага болей грошай. І робіць іх з "паветра".

Ну, скажыце, якая для нас з вамі карысць ад дзейнасці малога прадпрыемства "Амарант"? Бярэзінскі райвыканком выдаў яму ліцэнзію на продаж вінна-гарэлачных і тытунёвых вырабаў. Дык яно купляе ў арэнднага прадпрыемства з Гвардзейска Калінінградскай вобласці тры тысячы літраў віна за 240 тысяч рублёў і прадае ўжо сваім землякам за 310 тысяч.

Затым набывае ў мінскай навукова-вытворчай фірмы "Радвер" шампанскае па 150 рублёў за бутэльку, рэалізуе па 200. Ды яшчэ 6 тысяч бутэлек віна па 110 рублёў, а прадае па 150. Так і набегла летась 150.275 рублёў.

Вось тут і ўзнікае пытанне: няўжо мы маем такую вострую патрэбу ў спіртных напітках, каб іх прадавалі на кожным кроку? Фактычна ж вядзецца спойванне людзей.

Забаронай нічога не даб'ешся. І ўсё ж органы ўлады, рэгіструючы новую прыватную фірму, павінны мець на ўвазе і ўласны інтарэс -- якую ж карысць прынясе яна насельніцтву і мясцоваму рэгіёну ў цэлым.

Пётр СІДАРОВІЧ.

Разнастайныя сувеніры на памяць аб наведванні Слуцка можна купіць у спецыялізаваным аддзеле "Дома кнігі" спажывецкай кааперацыі. Дапамогуць вам іх выбраць Святлана **ХАРТАНОВІЧ** і Святлана **АСІЕЎСКАЯ** /на здымку/.

Фота Анатоля БАСАВА.

Удакладненне

## Завод у Зембіне дзейнічае

**У заметцы "Выратавалі завод" ("Мінская праўда" за 27 сакавіка г.г.) наш няштатны карэспандэнт Іван Сіляўка дапусціў недакладнасць, сцвярджаючы, што Зембінскі цагельны завод, які раней з"яўляўся вытворчым падраздзяленнем Лагойскага дрэваапрацоўчага камбіната, летась спыніў сваю дзейнасць.**

**У сапраўднасці ж такога не здарылася. Завод як працаваў, так і працуе, выпускае прадукцыю. За мінулы летні сезон выраблена 2,5 мільёна цаглін. І ў гэтыя дні, як паведаміў дырэктар Іван Выдрын, завод актыўна прадае цэглу як гаспадарчым арганізацыям, так і прыватным асобам.**

/Наш кар./.

## Хто не ачарсцвеў душою...

**У Мінску зарэгістраваны гарадскі Фонд сацыяльнай абароны ўдоў і дзяцей загінуўшых воінаў-інтэрнацыяналістаў.**

-- Прыкра, што на сваіх дзяцей, акрамя мізэрнай пенсіі, мы не атрымліваем ніякай матэрыяльнай дапамогі, -- растлумачыла старшыня наваствoранай грамадскай арганізацыі Тамара Іванаўна Доўнар. -- Звярнуліся неяк летась у Міністэрства абароны, каб атрымаць пуцёўкі ў піянерскі лагер. Пуцёўкі нам, трэба сказаць, выдзелілі. Але... за поўны кошт. Маўляў, ільготы -- толькі для мнагадзетных маці...

У далейшым фонд мяркуе сам сабе "зарабляць на жыццё". А пакуль што ў стварыўшых яго энтузіястаў няма яшчэ нават свайго памяшкання. **Для ўсіх, хто мае магчымасць дапамагчы ўдовам і малым, паведамляем: хатні тэлефон старшыні -- 36-62-39.**

Міхаіл Вяргейчык.

□ Вяртаючыся да надрукаванага

## ДЫРЭКТАРСКАЕ ФІЯСКА

**Даўно не збіралася столькі працаўнікоў Ждановіцкага цяплічнага камбіната, што ў Мінскім раёне, на сустрэчу са сваімі кіраўнікамі. Таму, відаць, многія паадвыкалі. Дзве жанчыны, якія сядзелі побач са мною ў зале, вялі нетаропкую размову:**

**-- Ведаеш, столькі людзей раней прыходзіла, бадай, толькі на які-небудзь вострасюжэтны індыйскі кінафільм.**

Наконт фільма ўсё зразумела, а вось пры чым тут сход? Справа ў тым, што ад яго залежаў далейшы лёс гаспадаркі. Пра "цёмныя" справы дырэктара У.У.Клаўсуця і некаторых іншых кіраўнікоў саўгаса гаварылася шмат. ("Мінская праўда" за 16 студзеня г.г., матэрыял М.Жучко "Справа ясная, што справы цёмныя"). Таму спынюся на тым, што адбывалася на сходзе.

Ужо ў самым яго пачатку Клаўсуць церпіць фіяска. Людзі не выбіраюць яго ў прэзідыум. Па просьбе прысутных старшыня райкома прафсаюза работнікаў АПК В.П.Чарнышоў азнаёміў іх з актам праверак Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь. Ніякіх сур'ёзных аргументаў на карысць дырэктара і яго брацii там не было. Пасля гэтага замаўчалі нават тыя, хто вылучаў кандыдатуру ў прэзідыум.

З вялікай нецярплівасцю ўсе чакалі выступлення дырэктара.

-- Я хачу сказаць, што тыя памяшканні, якія мы здалі ў арэнду, знаходзяцца на балансе гаспадаркі. За мінулы год амаль усе арэндныя прадпрыемствы з намі разлічыліся. Калі вы жадаеце, то сёння мы можам скасаваць заключаныя раней дагаворы. Канфлікт жа, лічу, з райвыканкомам з-за кватэр, якія мы не выдзелілі яму ў новым доме. Пра якія страты можа ісці размова? Сёння мы адзіныя ў раёне ідзём з плюсам па малаку. Сітуацыя склалася так, што Андрэева (былы галоўны заатэхнік -- Ю.Л.) захацела зняць дырэктара.

І вось тут людзі пачалі задаваць пытанні. Іх было шмат. Хто прама з месца, а некаторыя (такіх большасць) сталі дасылаць у прэзідыум запіскі, у якіх прапанавалася дырэктару адказаць на злабадзённыя пытанні.

-- Куды падзеліся долары палякаў?

-- Ніякіх долараў я не бачыў, не такія паны шчодрыя, каб даваць долары яшчэ і мне. Усе грошы, якія мы атрымлівалі, апрыходаваны ў касе.

-- Чаму скарачаеце сваіх старых рабочых, а бераце на работу гараджан?

-- Нікога мы не бралі. Я супраць работы пенсіянераў нічога не маю.

-- На саўгас атрымалі 82 тоны цукру. Дзе ён падзеўся?

-- Вы не захацелі браць, маўляў, дарага. Таму і пайшоў на бок.

-- Скажыце, якім чынам змаглі забяспечыць кватэрай сына?

-- Ён застаўся жыць у старой, а мы атрымалі кватэру ў Мінску. Дарэчы, яе выдзелілі вы.

-- На якой падставе Пякарчык і Хотаў ставяць свае машыны ў саўгасны гараж?

-- Заўтра скажам, каб не ставілі.

-- Чаму згнаілі моркву?

-- Уся морква была скормлена. Гэта ведае кожны, хто яе ўбіраў.

-- Якім чынам для будаўніцтва дачы галоўны бухгалтар В.Я.Жыліцкі выкарыстаў будматэрыялы гаспадаркі?

-- Мы ўсім людзям аказваем дапамогу. Чым можам, стараемся іх забяспечыць.

-- Дзе падзеліся скуры, якія выраблялі ў Гатаве?

-- Яны ў хуткім часе павінны паступіць у гаспадарку.

-- У нашай гаспадарцы правяць баль чужыя людзі. Усё здалі ў арэнду, а самім няма дзе складзіраваць гародніну, сена і іншае. У Тарасаве, напрыклад, сумеснае прадпрыемства ўзводзіць дамы. На якой падставе?

-- Пытаннямі зямлі я не займаюся, гэта -- кампетэнцыя сельскага Савета.

-- Каму прадалі мяккія куткі?

-- Мэбля за межы саўгаса не трапіла.

Яшчэ шмат іншых пытанняў задалі людзі ў гэты дзень кіраўніку. Не на ўсе з іх яны атрымалі вычарпальныя адказы. Але, тым не менш, свой вердыкт яны вынеслі, сказаўшы "не" У.У.Клаўсуцю, а заадно і яшчэ тром яго паплечнікам -- галоўнаму бухгалтару В. Я. Жыліцкаму, інжынеру-юрысту У. У. Пякарчыку, намесніку дырэктара па гаспадарчай частцы А. Ф. Хотаву.

У свой час працаўнікі саўгаса самі выбралі У.У. Клаўсуця сваім дырэктарам. Сёння відавочна, што яны памыліліся.

Пасля галасавання сход так і не вярнуўся да заключэння калдагавора. Гэта і зразумела, бо ён павінен заключацца ўжо з новым кіраўніцтвам.

Ю.ЛОЙКА.

■ На прыз "Мінскай праўды"

## СТАРТ -- У СУБОТУ, У 12 ГАДЗІН

31 год назад па ініцыятыве рэдакцыі абласной газеты і абласнога спорткамітэта ўпершыню быў праведзены веснавы лёгкаатлетычны крос на прыз "Мінскай праўды". З таго часу кожны год збіраліся лепшыя бегуны гарадоў і раёнаў Міншчыны, каб паспрачацца на дыстанцыі кросу, пазмагацца за перамогу.

У розных месцах праводзіліся фіналы абласнога кросу. Апошнія два гады гэтыя папулярныя ў вобласці спаборніцтвы праходзілі на фізкультурна-спартыўным комплексе ў Капылі, дзе абодва разы перамагала зборная Маладзечна.

І вось новы адрас. У суботу, 10 красавіка, лепшых красменаў гарадоў і раёнаў вобласці чакаюць у горадзе Стоўбцы. Гаспадары паклапаціліся аб падрыхтоўцы трасы, аб стварэнні добрых умоў для ўдзельнікаў. Дыстанцыі пракладзены ў маляўнічай мясцовасці Караліна, што за некалькі кіламетраў ад раённага цэнтра. Тут, дарэчы, размешчаны турбаза, піянерскі лагер. Прыцягнуты да падрыхтоўкі спонсары.

Напомнім, што спаборніцтвы прадугледжана праве́сці ў пяці ўзроставых групах. Юнакі і дзяўчаты 14--15 гадоў выступяць на кіламетровай дыстанцыі. Яна прадугледжана і для дзяўчат старэйшага ўзросту, а вось юнакі, якім споўнілася 16--17 гадоў, будуць бегчы ўжо два кіламетры. Дыстанцыя два кіламетры ўстаноўлена і для юніёрак, а юніёрам трэба будзе прабегчы 3.000 метраў. Ва ўзроставай групе 20--22 гады жанчыны будуць аспрэчваць першынство на трохкіламетровай трасе, а мужчыны паспрачаюцца за ўзнагароды на дыстанцыі чатыры кіламетры. Для жанчын, якім споўнілася 23 гады, тая ж трохкіламетровая траса, а вось мужчынам гэтага ўзросту трэба будзе прабегчы 6.000 метраў.

У саставе кожнай каманды 12 спартсменаў, трэнер і прадстаўнік. Для вызначэння каманднага першынства бяруцца дзесяць лепшых вынікаў, якія паказаны спартсменамі зборнай горада ці раёна.

Каманда-пераможца ўзнагароджваецца памятным прызам і ганаровай граматай рэдакцыі газеты "Мінская праўда". Ганаровымі граматамі будуць адзначаны і каманды, якія зоймуць другое і трэцяе месцы.

Пераможцы ў асабістым заліку на кожнай дыстанцыі ўзнагароджваюцца ганаровай граматай "Мінскай праўды" і памятным прызам аблспорткамітэта. Ганаровыя граматы будуць уручаны ўдзельнікам, якія выйдуць на другое і трэцяе месцы.

У нялёгкі час праводзім мы гэтыя традыцыйныя спаборніцтвы. І ўсё ж рэдакцыя і абласны спорткамітэт спадзяюцца, што мы сустрэнемся ў Стоўбцах. Не лягчэй было і летась, але ж у Капыль прыехала 27 каманд з 28. Вось так бы і на гэты раз.

Чакаем вас, сябры!

Павел ЖУРБА.

■ АПК і рынак

# КОМПЛЕКС ЗБІРАЕЦЦА ВЫЖЫЦЬ

**Гаспадаркі Слуцкага раёна, як і вобласць у цэлым, скарацілі летась вытворчасць мяса на 28 працэнтаў, яго недапастаўлена дзяржаве 2,7 тысячы тон. Не абмінуў гэты спад і свінагадоўчы комплекс калгаса імя Дзяржынскага ў вёсцы Гарадзішча. За мінулы год тут было рэалізавана 807 тон свініны -- на 211 менш, чым у папярэднім, а вытворчасць скарацілася амаль удвая. Прыбаўленне ў вазе адной галавы ў разліку на кармадзень склала ўсяго 401 грам -- менш, чым у папярэднім годзе, на 106 грамаў. Асноўная прычына такіх "мінусаў" -- слабая кармавая база.**

Як складваюцца справы ў калектыве комплексу зараз, якія захады робяцца кіраўніцтвам калгаса, зоатэхнічнай службай па больш рацыянальнаму выкарыстанню ўласных кармоў, захаванню маладняку, наладжванню стабільнай работы комплексу? Аб гэтым гутарка нашага карэспандэнта з галоўным заатэхнікам гаспадаркі Н.В.Крупенка.

**-- Наталля Віктараўна, комплекс ствараўся з разлікам на дзяржаўныя пастаўкі камбікармоў. Цяпер яны рэзка скараціліся. Як гэта адбілася на пагалоўі жывёлы?**

-- У канцы васьмідзесятых гадоў на комплексе ўтрымлівалася ў сярэднім 12 тысяч свіней. Па стану на першае лютага маем 8.600. І на гэтае пагалоўе не хапае камбікармоў. За мінулы год з дзяржрэсурсаў атрымалі іх толькі 800 тон замест патрэбных 3--4 тысяч. Бывала, гаспадаркі раёна перадавалі нам частку зернефуражу, а за гэта мы залічвалі ім у вытворчасць пэўную долю атрыманай свініны. Выгада была ўзаемная. Цяпер пра падобны абмен ніхто і не заікаецца, бо калгасам сёння выгадней прадаваць збожжа, чым займацца вырошчваннем свіней.

**-- А вашаму калгасу якая выгада ад комплексу пры ўзрослых у некалькі разоў цэнах на камбікармы, энергарэсурсы? Толькі і чуеш ад вяскоўцаў; свініна -- стратная для гаспадаркі прадукцыя. Ці не таму і ў магазінах яна паяўляецца не часцей, чым бананы ды апельсіны?**

-- Ёсць такая народная прымаўка: хочаш жыць -- умей круціцца. Так і мы. Пераканаўшыся, што на дзяржаўных камбікармах далёка не выедзеш, можна наогул заваліць справу, сталі вышукваць свае рэзервы. Расшырылі пасевы пад збожжавымі культурамі. Нават у мінулым годзе, з яго засушлівым летам, на патрэбы жывёлагадоўлі ў нас было выдзелена 6 тысяч тон зерня, у тым ліку для комплексу -- чатыры тысячы. Усё жыта здалі на Слуцкі камбінат збожжапрадуктаў у абмен на камбікармы. Вядома, павысіліся затраты на выхад свініны.

Калі раней на кілаграм прыбаўлення ў вазе парсюка затрачвалі шэсць кармавых адзінак, то цяпер -- усе восем, што звязана з перакормам пагалоўя ў сувязі з падоўжаннем тэрміну яго адкорму. Значыць, выраслі і затраты. Але ўсё ж за мінулы год комплекс прынёс у калгасную касу чыстага прыбытку 9 мільёнаў 17 тысяч рублёў, рэнтабельнасць склала 28 працэнтаў.

Па сённяшніх цэнах прыбытак не вельмі высокі, але ён дазволіў кіраўніцтву калгаса выдаць за год на кожны зароблены рубель яшчэ па рублю, чым калгаснікі задаволены. Толькі баюся, што новых мільёнаў сёлета нам не ўбачыць. Мяркуйце самі: за кілаграм свініны ў жывой вазе нам плацяць цяпер 281 рубель. Быццам і нямала. Але трэба ўлічыць, што затраты камбікармоў на той жа кілаграм свініны зараз ацэньваюцца ў 240 рублёў. Дабаўце выдаткі на аплату працы даглядчыкаў, на энергарэсурсы, рамонт памяшканняў -- і ад прыбытку застаюцца капейкі. Выйсце я бачу ў павышэнні закупачнай цаны на свініну. Інакш яна, як ялавічына і малако ў нашым калгасе, таксама будзе стратная.

Спажыўцы, вядома, стануць абурацца: зноў павышаюць цэны! Але іншага выйсця няма, трэба ж і селяніну выжыць. Хіба гэта парадак, што нашы свінаркі на комплексе зарабляюць у месяц па 5--6 тысяч рублёў? А гэта пераважна сямейныя жанчыны.

**-- Як справы з пастаўкай камбікармоў у новым годзе?**

-- На першы квартал комплексу выдзелена з дзяржрэсурсаў 450 тон, а дзённая норма іх спажывання -- 15 тон. Каб дажыць да новага ўраджаю, патрэбна як мінімум 3 тысячы тон. Кампенсаваць дэфіцыт камбікармоў разлічваем за кошт увядзення ў эксплуатацыю кармацэха, будаўніцтва якога заканчваецца. Там можна будзе рабіць мешанкі з дабаўленнем азімага жыта, зяленіва ранніх траў. Але гэта пазней, недзе ў маі. А пакуль нарыхтоўваем сянную муку, здрабняем хвойныя галінкі, варым пойла. У сувязі са змяненнямі ў рацыёне кармлення правядзём рэканструкцыю двух памяшканняў, зменім тэхналогію раздачы корму.

**-- Ці хопіць сіл і сродкаў утрымаць пагалоўе на сённяшнім узроўні да канца года альбо частку яго ўсё-такі пусціце пад нож?**

-- Ні ў якім разе. На комплексе ёсць 400 асноўных свінаматак, летась ад іх было атрымана 9.349 парасят. Думаю, што і сёлета гэты ўзровень захаваецца. Пры ўмове, што нас лепей забяспечаць медыкаментамі для прафілактыкі і лячэння такіх інфекцыйных хвароб, як чума, рожа. У апошнія месяцы рэзка скараціліся пастаўкі з Расіі прэпарата "фераглюкін" -- ён выкарыстоўваецца для папярэджання вышэйназваных хвароб свіней. І ўсё ж спадзяюся, што пагалоўе захаваем і вытворчасць свініны не знізім.

Гутарыў Міхаіл ТЫЧЫНА.

# НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПРЫСЯГА

"Няхай дапаможа мне Бог". Гэтымі словамі сяржант амерыканскай арміі Джордэк Ален Партрыдэк закончыў прыняцце прысягі на вернасць служэння Злучаным Штатам у... Пухавіцкім гарнізоне.

Па законах вялікай заакіянскай дзяржавы ваеннаслужачы, у якога заканчваецца тэрмін службы, але ён жадае прадоўжыць кантракт, абавязаны прыняць воінскую прысягу на чарговы тэрмін, дзе б ён ні знаходзіўся.

У рамках міжнароднага дагавора па звычайных узброеных сілах у Еўропе Джордэк А.Партрыдэк уваходзіў у гэты час у састаў інспекцыйнаіі групы, што праводзіла праверку на ваенным аб"екце ў Мар"інай Горцы.

Па ўзгадненню з пасольствам ЗША ў Рэспубліцы Беларусь сяржанту амерыканскай арміі была дадзена магчымасць урачыста прысягнуць на вернасць Канстытуцыі і прэзідэнту Злучаных Штатаў Амерыкі ў момант правядзення інспекцыі.

У адпаведнасці са статутам і адзіным зводам ваенных законаў Амерыкі прыняць прысягу ў ваеннаслужачага абавязаны старшы начальнік. У гэты момант ім быў палкоўнік Уладзімір Аўласенка, якому ўпершыню давялося прымаць прысягу ў прадстаўніка замежнай арміі.

У памяць аб незвычайнай падзеі Уладзімір Аўласенка перадаў віноўніку ўрачыстасці памятны медаль "1000-годдзе ўвядзення хрысціянства на Русі".

БЕЛІНФАРМ.

■ Людзі нашай вёскі

# НЕАЦЭННАЯ СПАДЧЫНА

У людзей, якія аддалі сваё жыццё сельскагаспадарчай вытворчасці, існуе правіла -- што пасееш, тое і пажнеш. А ў тым, што гэта менавіта так, можна пераканацца на канкрэтным прыкладзе. Механізатар калгаса "Дружба" Стаўбцоўскага раёна Г.П.Бурак вось ужо звыш трыццаці гадоў сее, жне і перавозіць грамадскае дабро. Нібы салдат -- у любое надвор'е -- заўжды на пасту. Чалавек не ганарыцца заслугамі (а ўзнагарод у яго шмат) -- ён проста працуе. Працуе так, як падказвае ягонае сумленне: чэсна, з пачуццём адказнасці, за гонар хлебаробскага звання.

Мала сказаць, што такія людзі ў летнюю пару працуюць з ранку да вечара. Тут не толькі фізічныя перагрузкі, але і нервовае напружанне. Толькі чалавек на тое і створаны, відаць, каб, наперакор усялякім перашкодам, няспынна ісці наперад і дабівацца мэты. Каб пакінуць на гэтай зямлі добрую аб сабе памяць і перадаць нашчадкам тое, што ўмее сам.

Дарэчы, аб нашчадках. Г.П.Бурак з жонкай Марыяй Іванаўнай вырасцілі і вывелі ў людзі двух сыноў і дзвюх дачок. І хоць не пайшлі яны бацькоўскімі сцежкамі, але людзьмі сталі паважанымі, працавітымі. Адна дачка набыла педагагічную адукацыю, другая -- сакратар-машыністка. Што датычыць сыноў, то абодва яны -- людзі ў пагонах. Старэйшы, Аляксандр, -- начальнік аддзела дзяржаўнай аўтаінспекцыі ў горадзе Камянцы, а малодшы, Васіль, -- прапаршчык ва ўзброеных сілах Рэспублікі Беларусь. Пачуццё высокай адказнасці за даручаны ўчастак работы і дзелавітасць найлепш характарызуюць кожнага з братоў. Ганарацца бацькі сваімі сынамі, бо яны хлопцы чулыя (як і дзяўчаты), клапатлівыя. Ды інакш і быць не магло: такое выхаванне ім далі ў сям'і. Васіль за адзін год ад радавога даслужыўся да звання старшыны роты, атрымаў трыццаць дзве падзякі, граматы і каштоўныя падарункі ад камандавання за ўзорнае выкананне грамадзянскага абавязку перад Айчынай. У школу быў дасланы пахвальны ліст за прыкладнае выхаванне салдата.

Справядліва зазначыў выдатны рускі педагог і пісьменнік А.С.Макаранка, што, выхоўваючы сваіх дзяцей, бацькі тым самым садзейнічаюць фарміраванню гісторыі сваёй Бацькаўшчыны. Па-добраму зайздросцяць вяскоўцы Генадзю Пятровічу і Марыі Іванаўне, бачачы, якія душэўныя дзеці выраслі ў гэтай сялянскай сям'і.

Сярод вяскоўцаў пра Г.П.Бурака гавораць з даверам і павагай. Пятровіча, як яго тут лагодна называюць, ведаюць у гаспадарцы як чалавека сур'ёзнага, здольнага прыйсці на дапамогу тады, калі гэта патрэбна. Не лічыцца ён са сваім уласным часам і паслугі землякам аказвае бескарысліва, што ў нашы дні сустрэнеш не так часта. Дабрыня і чалавечнасць заўсёды цаніліся людзьмі вышэй за ўсё. І асабліва цяпер, калі ўсім нам нялёгка, калі амаль паўсюдна можна сустрэць грубасць, чэрствасць, абыякавасць, распусту. Хіба ж такія людзі не з'яўляюцца ўзорам для пераймання?

Генадзь Пятровіч і Марыя Іванаўна нядаўна выйшлі на пенсію. Але па меры сваіх сіл працягваюць працаваць. Не з-за "доўгага" рубля, вядома. Відавочна, праца для іх -- не толькі сродак існавання, а ў першую чаргу -- маральная неабходнасць, крыніца бадзёрасці. Глядзіш на такіх людзей, -- і хочацца верыць: адродзіцца наша вёска, таму што лепшыя традыцыі старэйшага пакалення перадаюцца нашчадкам у спадчыну.

У народзе кажуць: чалавек не госць на гэтай зямлі, а яе руплівы гаспадар. Можа таму і жыве ў сэрцах вяскоўцаў вера, што ў незалежнай Беларусі такіх сапраўдных гаспадароў будзе больш.

А.ГРЫНКЕВІЧ.

# Начная вандроўка чырвонага "Масквіча"

Ён паявіўся ў вёсцы Сорагі Слуцкага раёна сярод ночы. Чатыры яго пасажыры праніклі ў склад матэрыяльных каштоўнасцей кагаса "III Інтэрнацыянал" і забралі 76 рулонаў шпалераў, шэсць навясных замкоў, два нівеліры і два фарбапульты -- усяго на сто тысяч рублёў. Хтосьці з вяскоўцаў усё ж паспеў заприкмеціць колер заезджага "Масквіча". У дзяжурны пакой міліцыі паступіў трывожны сігнал. Яго перадалі патрульнай машыне ДАІ. Яе вадзіцель на выездзе са Слуцка, з усходняга боку, сустрэў грузавую крытую машыну з рэйдавай групай супрацоўнікаў гаррайаддзела ўнутраных спраў на чале з намеснікам начальніка аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю маёрам В.Васілевічам. Рэйдавая павярнула назад і паехала па шашы ў бок вёскі Вясея. Кіламетры за два наперадзе засвяціліся фары сустрэчнай машыны. Яе вадзіцель раптам зварочвае на бакавую дарогу -- у напрамку вёскі Бярозаўка. І адразу гасіць фары. "Няйначай, той "Масквіч", -- падумаў маёр В.Васілевіч і загадаў вадзіцелю прыбавіць газу. Нагналі легкавік толькі ля вёскі Папоўцы. Абагнаўшы, выкінулі жазло. "Масквіч" на павароце занесла на плот, ад удару заклініла правыя дзверцы. Затрыманыя не супраціўляліся: у салоне аўтамашыны ляжалі ўкрадзеныя рэчы. Усе чацвёра былі п'яныя. Супраць іх узбуджана крымінальная справа.

Міхаіл АДАМАЎ.



*Кругласутачна працуюць людзі на Жодзінскай ЦЭЦ, каб у дамах і на вытворчасці заўсёды былі цяпло і святло.*

***На здымку:*** *вахту нясуць машыністы цэнтральнага шчыта № 2 Сяргей Мікалаевіч* ***КОВАНАЎ*** *і Валянцін Аляксандравіч* ***ШАЛЕСТАВЕЦ.***

Фота Міхаіла Пушчыка.

# БРЫЛЬЯНТАВЫ ВАЛЬС

У г. Маладзечне дзесяць гадоў таму назад праходзіла ўрачыстасць з нагоды залатога вяселля Фёдара Несцеравіча і Юліі Якаўлеўны Шалімавых. Самыя цёплыя словы госці і родныя адрасавалі юбілярам, жадалі ім доўгіх год, такога ж шчырага кахання. І вось споўнілася 60 гадоў сумеснага жыцця. Зноў сабраліся разам -- на брыльянтавае вяселле. Дарэчы, першае ў горадзе. Вялікай удзячнасцю, сыноўняй любоўю і адданасцю былі напоўнены словы дзяцей і ўнукаў. А трохгадовая праўнучка Марыйка для юбіляраў прачытала верш.

Успамінам у гэты дзень не было канца. Фёдар Несцеравіч і Юлія Якаўлеўна згадвалі першае знаёмства, нараджэнне першай дачкі Тамары, нялёгкія ваенныя гады, сумесную працу ў кінафікацыі, вяселлі дзяцей - цяпер у гэтай сям'і 31 чалавек.

Юбіляраў цёпла віншаваў намеснік старшыні гарвыканкома С.К.Татарыновіч. Ён уручыў ім памятны адрас і падарунак.

У народзе гавораць: "У кахання няма пачатку і няма канца". Муж і жонка Шалімавы, як адзначае "Маладзечанская газета", засталіся вернымі гэтай народнай мудрасці, стрымалі клятву ўзаемнай павагі і адданасці. Таму так прыгожа і танцавалі свой брыльянтавы вальс.

Уладзімір КОБРЫН.

# ПАВЕСЯЛІЛІСЯ

**Весела і цікава прайшлі школьныя канікулы ў Мінскім Палацы дзяцей і моладзі. Для гурткоўцаў Палаца і школьнікаў горада ў сакавіку была падрыхтавана вялікая і насычаная праграма. Адбылося свята песні, затым -- гарадская выстаўка тэхнічнай творчасці, Дзень кіно, свята юных мастакоў "Вясёлка". Юных спартсменаў прыйшлі павіншаваць калектыў эстраднага танца Мінскага Палаца дзяцей і моладзі і артысты Мінскага дзяржаўнага цырка. Юных шахматыстаў чакалі бліцтурнір і сеанс адначасовай гульні. Школьнікі спаборнічалі па такіх відах спорту, як картынг, мотаспорт, міні-футбол, настольны тэніс, спартыўная стральба. А спаборніцтвы па воднаму турызму прайшлі на Камсамольскім возеры. Дэманстравалі сваё майстэрства юныя авія-, судна- і аўтамадэлісты.**

Алена АЛЬХАВАЯ.



Жыхары Чэрвеня з задавальненнем заходзяць у прадуктовы магазін № 4. Іх заўсёды сустракаюць з увагай і добрай усмешкай. У адрас загадчыцы Валянціны Спірыдавай ідуць толькі самыя добрыя водгукі /на здымку яна справа з вучаніцай прадаўца Ірынай Абчухскай/.

Смачную прадукцыю выпякаюць у кандытарскім цэху Чэрвеньскага камбіната кааператыўнай прамысловасці: пячэнне, тарты і здобу любяць старыя і малыя. А тарты, выкананыя на заказ, упрыгожаць любы святочны стол.

**На здымку:** майстар Ала **ТРАПЯНОК.**

Фота Анатоля БАСАВА.

■ З залы суда

# Выганяў... і не заўважыў, як забіў

**Першы раз у сваім жыцці мне давялося бачыць забойцу. Бачыў вельмі блізка яго твар з апушчанымі вачыма, рукі, у якіх ён камячыў аблезлую шапку... Не, нічога жахлівага ў ім не было, наадварот -- усё яго "змазанае" аблічча выклікала ў мяне не столькі агіднасць (хоць, прызнацца, было і гэтае пачуццё), колькі непрыязнасць і непаразуменне... Я і цяпер да канца ніяк не магу зразумець, як ён -- чалавек неблагі і неагрэсіўны (паводле слоў сведак, характарыстык з работы) -- мог учыніць такое са сваім сябрам, якога ведаў столькі часу, з якім разам некалі працаваў. Як мог ён, інвалід другой групы, спазнаўшы боль і пакуты, пайсці на забойства?..**

-- Устаць, суд ідзе, -- паведаміў сакратар суда. Пачаўся разгляд справы аб забойстве ў Заслаўі, учыненым у верасні мінулага года. На першы погляд -- банальная бытавая сітуацыя: сабраліся двое сяброў пагутарыць аб сваім гаротным жыцці, свае пачуцці вырашылі "замацаваць" дзвюма бутэлькамі гарэлкі, якія прынёс госць, а ў далейшым - ахвяра забойства. Нягледзячы на тое, што ўжо быў "пад газам" (кухаль піва плюс бутэлька "Зуброўкі"), гаспадар ад "пачастунку" не адмовіўся. Госць чамусьці вырашыў застацца начаваць у сябра. Гаспадар -- ён жа падсудны К. -- пачаў пярэчыць і выганяць госця мыліцай. Выганяў так старанна, што не заўважыў, як забіў свайго сябра. А калі заўважыў, то, каб "не прыкідвацца", пачаў падымаць яго, наступаючы нагою на горла...

Вось даныя амбулаторнай судова-псіхіятрычнай экспертызы: "Псіхічнымі захворваннямі і душэўнымі расстройствамі К. не пакутаваў. Варта лічыць, што ён знаходзіўся ў стане свядомасці. У лячэнні не мае патрэбы..." Ва ўрача-нарколага К. таксама на ўліку не стаяў: яго п'янства было на бытавым узроўні.

-- Я ні за што на свеце не мог падумаць, што заб'ю яго, што наогул мыліцай можна забіць, -- заявіў у час следства падсудны.

Аказваецца, можна... На целе Г. былі выяўлены шматлікія раненні ад удараў, пераломы. Судовай экспертызай устаноўлена, што падсудны нанёс сваёй ахвяры дванаццаць удараў, вынікам чаго стала шырокае кровазліццё ў мяккіх тканках таза,правай верхняй канечнасці з наступным малакроўем, а таксама кровазліццё ў праварэмянную вобласць галавы. У К. цялесных пашкоджанняў не знойдзена. А вось экспертызай рэчавых доказаў устаноўлена кроў Г. на левай красоўцы і штанах, якія належаць К., такія ж крывавыя плямы былі і на мыліцах забойцы, знойдзены яны і на сцяне лесвічнай клеткі, дзе разыгралася трагедыя.

Успомніліся словы галоўнай сведкі С. -- суседкі К.: "Маліся, чалавеча, бо Бог ад цябе адвярнуўся... Што ж ты нарабіў? Чалавека ў магілу адправіў -- з жывой душыназдзекаваўся. Не даруе табе Бог, ніколі не даруе..." Чую старэчы шэпт, як цяпер, і здаецца, што збялелы ,спуджаны твар падсуднага ў гэтую хвіліну такі далёкі... Нейкая цемра за ім, і не выцягнуць яго адтуль, не дапамагчы.

-- Я не хацеў яго забіваць, думаў стукнуць у плячо, а трапіў у галаву, -- ускрыкнуў падсудны, з прыкрасцю махнуў рукой.

К. першым нанёс удар Г., які нават не спрабаваў абараняцца. І К. у азарце біў яго мыліцай, нават тады, калі Г. выпаўз з кватэры. Пачуўшы словы ахвяры: "Не бі мяне, я ж добры чалавек", -- забойца раз'юшыўся яшчэ больш. На яго крык: "Забю!"-- выбегла з кватэры сведка С. і пачала супакойваць. У яе адрас пасыпаліся мацюкі і пагрозы. Судом было прызнана, што спосаб забойства кваліфікуецца як асабліва жорсткі, а забойства -- наўмыснае.

"Як жа так? -- думаў я ў гэтую хвіліну, -- чаму чалавек можа дайсці да такога зверства? У кожнага з нас ёсць свой унутраны "кантралёр", які дыктуе нам нормы паводзін, дапамагае ў адносінах з іншымі людзьмі..."

Мае думкі абарваў чыйсьці ўсхліп. Я абярнуўся і заўважыў былую жонку К. і яго дарослую дачку, якая супакойвала маці. Змучаная, счарнелая ад гора жанчына. Адна падымала на ногі дзвюх дачок, пасля таго як разышліся з мужам. Для яе гэта падзея была поўнай нечаканасцю, бо за трынаццаць гадоў, як яны былі ў шлюбе, ён ніколі не піў, ніколі не падняў руку ні на жонку, ні на дзяцей. На запытанне суддзі аб разводзе яна адказала: "У яго была другая жанчына. Гордасць мне не дазваляла жыць з чалавекам, які здраджвае мне, які больш не кахае. І ён пайшоў да сваёй каханкі, там прызвычаіўся да выпіўкі".

З чаго пачалося маральнае падзенне К.? Хто вінаваты ў яго паламаным лёсе: гарэлка ці, можа, спакусніца, што навучыла лёгкаму жыццю? Інтуіцыя мне падказвала: было і яшчэ нешта такое, што прывяло яго на лаву падсудных.

-- Скажыце, а як жыць нам, як людзям у вочы глядзець? -- з горыччу пыталася ў мяне яго дачка. -- У чым мы вінаватыя? Увесь час ён шукаў лепшага жыцця. З намі яму не хапала волі...

І тады я зразумеў, што К. упарта не хоча лічыць сябе вінаватым у тым, што ён калечыў жыццё ўсім, хто знаходзіўся з ім побач. Гэтае ап'яняючае, усёпаглынальнае жаданне быць вольным, браць ад жыцця як мага больш і нічога не аддаваць узамен загубіла ў ім чалавека, забрудзіла яго душу. Мабыць, усё і пачалося з той першай сямейнай здрады...

Суд прыгаварыў падсуднага да дзесяці гадоў пазбаўлення волі, без ссылкі.

Сяргей ДЗЯДЗЮЛЯ.

□ Супрацоўніцтва

# У САДЗІКУ ЛЕПШ, ЧЫМ ДОМА

**Асабліва ў такім, што ў пасёлку Новая Зара Пухавіцкага раёна. Мяркуйце самі: у раздзявалках -- шафы з вентыляцыяй і падсушкай. У пакоях цудоўная мэбля. Усё -- замежнай вытворчасці і вельмі зручнае, бо аб"ект пабудаваны фінскай фірмай "Хака". Столікі і стульчыкі разлічаны на ўзрост. У спальнях устаноўлены драўляныя ложачкі. У яслях - манежы. Падлога, як і патрэбна, -- уцепленая.**

Ацяпляльная сістэма мае вентылі, каб можна было ў любы момант адрэгуляваць тэмпературны рэжым у тым ці іншым пакоі. Вокны з сонечнага боку маюць жалюзі. Прадугледжана ўсё неабходнае, што можа спатрэбіцца ў дзіцячым садзе.

Тры пакоі займае пральня, дзе ўстаноўлены дзве пральныя машыны, сушыльны апарат, гладзільныя сталы.

Медыцынскі адсек, у які ўваходзяць сем памяшканняў, у тым ліку ізалятар і душавая, абсталяваны апаратурай для правядзення фізіятэрапеўтычных працэдур. У кожным з яго пакояў -- бактэрыцыдныя лямпы.

Чаго толькі няма ў харчблоку! Тут і электракатлы, пліты, цестамяшалка... Ёсць і мясны цэх, памяшканні для рэзкі хлеба, чысткі бульбы, вялікая халадзільная камера. Для дастаўкі прыгатаванай ежы на другі паверх прадугледжаны ліфт. Паўсюдна -- светлы колер, дзе патрэбна -- кафля.

Асаблівая гордасць дзіцячага сада -- басейн. Ён абслугоўваецца аўтаматыкай. Вада ў ім пастаянна чыстая, цыркуліруе: з басейна паступае ў хларатарную, дзе праходзіць праз фільтры. Датчыкі аналізуюць якасць вады і пры неабходнасці дабаўляюць у яе хлору і соды, і зноў "адпраўляюць" у басейн.

-- Да будаўнікоў ніякіх прэтэнзій няма, -- адзначае загадчыца дзіцячага сада Таццяна Расціславаўна Шклярык. -- Дарэчы, і тэрыторыя дзіцячага сада поўнасцю добраўпарадкавана. Пляцоўка для гульняў -- як вялікі казачны гарадок са шматлікімі драўлянымі домікамі, арэлямі, лаўкамі...

Разлічаны садзік на 280 дзяцей. Аднак па новых нормах, якія нядаўна змяніліся, на гэтую плошчу прымаецца 230--240 дзяцей. Адкрыліся пакуль толькі 4 групы. Справа ў тым, што для іншых яшчэ не ўсё падрыхтавана, напрыклад, пасцельныя прылады. Калі б і пастаўка гэтых "дробязей" была па кантракту абавязкам нашых замежных партнёраў, затрымкі не было б.

А.МАЗАНІК.

# ЛЮБАНСКІЯ ЭЦЮДЫ

**Журналісцкія камандзіроўкі. Канкрэтныя заданні. Сустрэчы з людзьмі. Але жыццё на кожным кроку падкідвае новыя цікавыя сюжэты. Як і тады, у час апошняй паездкі на Любаншчыну...**

## ХТО ВІНАВАТЫ?

Раніцай салігорскі аўтобус пры пад"ездзе да Любані заўсёды перапоўнены. Людзі спяшаюцца на работу ў райцэнтр, школьнікі -- на заняткі. І лезці ў "бочку з селядцамі на колах" кантралёры, як правіла, не асмельваюцца.

Гэты рэйс аказаўся выключэннем.

-- Калі ласка, прад"явіце білецікі! -- праціскаючыся паміж пасажырамі, патрабавала маладая жанчына.

Прад"яўлялі дружна. І раптам -- асечка. У двух хлопцаў білетаў не было. Спачатку яны заявілі, што быццам за іх заплацілі сябры, якія стаяць наперадзе. Калі тых не аказалася, пачалі даводзіць, што згубілі білеты.

-- Штраф плаціце! -- запатрабавала кантралёр.

Але ў кашалькі хлопцы не палезлі.

-- Вадзіцель! -- скамандавала кантралёр. -- Заднія дзверы не адчыняй! -- І сказала "зайцам": -- З-за такіх, як вы, рэйсы адмяняюцца -- бензіну няма... Не выслізнеце -- за аўтобусам ідзе наша аўтамашына, а мужчыны там здаровыя. Таму хутчэй штраф плаціце.

Безбілетнікі нават не паварушыліся. Аўтобус уехаў у горад. Спыніўся. Людзі пацiснуліся да пярэдніх дзвярэй. Аб"ехаўшы аўтобус, затармазіў "УАЗ" са штампам мясцовай аўтабазы. Выходзіць, не хлусіла жанчына. Адзін пасажыр грузавіка заглянуў у аўтобус, перакінуўся некалькімі словамі з кантралёрам. І на двух "матарах" яны павезлі безбілетнікаў на аўтавакзал. Ці нават у міліцыю.

А вечарам таго ж дня з-за адсутнасці бензіну былі адменены запар два рэйсы на Салігорск. Хто ў гэтым дэфіцыце вінаваты -- хлопцы-безбілетнікі ці мужчыны, якія спальвалі бензін, ганяючыся за "зайцамі"? Адказу тады я так і не знайшоў. Хутчэй за ўсё, і тыя, і другія -- ахвяры...

## САМАЕ ДАРАГОЕ – БЯСПЛАТНА

Намеснік старшыні райсавета народных дэпутатаў Д.В.Міцкевіч падвёз неяк дзядулю. Той шчыра падзякаваў і пачаставаў скрутачкам тытуню-самасаду. Запэўніўшы, што гэта не нейкія там цыгарэты са стружак... І вось Дзмітрый Вячаслававіч зрэдку дастане са стала скрутачак, разане крышачку ад яго, зацягнецца дымам. І ўголас раздумвае, што, магчыма, ёсць сэнс некаторым дзелавым людзям сеяць тытунь. Бо цыгарэты не заўсёды ў магазінах бываюць, а калі і ёсць, то не кожны купіць. У адзін з такіх момантаў у кабінет заглянуў загадчык аддзела райвыканкома па землекарыстанню і землеўпарадкаванню В.К.Курчэўскі. І размова адразу "зазямлілася".

-- Калі так пойдзе далей, то можам дажыцца да таго, што не будзе дзе той тытунь сеяць, -- занепакоена гаварыў Васіль Канстанцінавіч. -- У нашым раёне пакуль што сітуацыя нармальная. А ў іншых, асабліва ў прыгарадных, многія захапіліся "прыхватызацыяй" зямлі. Бяруць на сябе, на свата, на брата. Заліваюць фундаменты, абносяць іх плотам -- не падыходзь, мой участак! І чакаюць лепшага часу. А зямля пустазеллем зарастае...

-- Усё таму, што зямля -- наша галоўнае багацце -- раздаецца фактычна бясплатна, -- зазначае Д.В.Міцкевіч. -- Вось спрытнюгі і карыстаюцца момантам, хапаюць. Ведаюць, што яна заўсёды ў цане будзе.

-- Што ж рабіць? Прадаваць? Дык у людзей, што на зямлі працуюць, грошай кот наплакаў. Яны ў тых жа махляроў, якія зноў на кані будуць.

-- Вось таму і трэба ўвесці зямельную квоту, -- гаворыць Дзмітрый Вячаслававіч. -- Чаму кватэрная квота ёсць, а зямельнай няма? Атрымаў бы селянін дакумент на зямлю і няхай бы думаў, як ёй распарадзіцца. Ці самому конікам апрацоўваць, ці аб"яднацца з суседзямі ды трактар купіць. Зноў жа, за працоўны стаж квоту налічваць: больш гадоў зямлю потам паліваў -- большы ўчастак атрымлівай... А бясплатнае, яно і ёсць бясплатнае.

-- Тады трэба законы прымаць.

-- А я аб чым?

Праз некалькі дзён прапанова аб квоце на зямлю прагучала з трыбуны Вярхоўнага Савета Беларусі. Што ж, сапраўды, злабадзённыя ідэі, як кажуць, у паветры носяцца.

## ІВАН ІГРАЕ НА "РАЯЛІ"

Галоўная любанская сталоўка -- за дзве сотні метраў ад райвыканкома. Побач -- рэстаран, кафэ. І ўсюды ў абед паўпустыя залы. Чаму? Высокія цэны ў многіх наведвальнікаў яшчэ на парозе апетыт адбіваюць. "Значыць, выбар страў будзе вялікі", -- думаў я, адчыняючы дзверы сталоўкі.

Але мажная раздатчыца адразу астудзіла мяне.

-- З першага няма нічога, на другое -- толькі блінцы і катлеты, -- раўнадушна паведаміла яна.

-- Як жа так? -- здзівіўся я. -- Толькі ж гадзіна дня.

-- А мы з ранку працуем, - адкрыла "сакрэт" жанчына.

Заставалася толькі паціснуць плячыма. Асабліва калі ўбачыў, які багаты выбар быў каля разліковай касы. Ажно вочы разбягаліся. Віно, розная гарэлка. Нават знакаміты спірт "Раяль". Перада мною "па-гаспадарску" ўціснуўся здаровы дзяцюк з плямамі мазуту на руках. Падобна, што аматары спіртнога ў сталоўцы маюць перавагу перад звычайнымі наведвальнікамі, бо касірка тут жа пляснула гарэлкі ў мензурку, пераліла яе ў шклянку і перадала мужчыну. Той адышоў, умомант асушыў посуд. Закусіў кавалкам хлеба. Задаволена пагладзіў жывот. Выйшаў на вуліцу. І трактар, які грукатаў пад акном, рушыў з месца...

А тым часам касірка адмервала порцыю другому мужчыну. Калі той са шклянкай садзіўся за стол, хтосьці са знаёмых заўважыў:

-- Іван, яшчэ ж толькі паўдня, працаваць трэба будзе.

-- А мы -- ударнікі, апярэджваем час! -- засмяяўся Іван.

І выпіў, паморшчыўся. Магчыма, той жа "Раяль". Закусіў блінцамі. І загаварыў з суседзямі весела, шумна...

Што ж, сёння кожны іграе на сваім "Раялі". Праўда, "пахмяляцца" пасля гэтага даводзіцца ўсім нам.

## НА АГЕНЬЧЫК

Абедзенны перапынак ва ўстановах. Толькі ў магазінах людзі штосьці шукаюць на паўпустых паліцах. А вось у гарадской бібліятэцы прыадчынены дзверы. Цікава: атрымаўшы свой кілаграм цукру па спісу, адстаяўшы даўжэзную чаргу за ботамі, ці ідуць людзі ў гэтае сховішча пачуццяў, думак, вобразаў?

-- Цяпер у нас 2.900 чытачоў, амаль на 300 больш, чым было летась, -- задаволена заявіла загадчыца аддзела абслугоўвання Г.М.Кульбіцкая.

Ганна Максімаўна амаль усё жыццё прысвяціла бібліятэчнай справе. З яўным задавальненнем расказвае, што на базе іх бібліятэкі праводзіліся абласныя, нават рэспубліканскі семінары. А чаго, паказаць ёсць што. Мясцовыя ўлады ім былое памяшканне райкома партыі не пашкадавалі. Прасторна, светла. Усе 33 тысячы кніг свабодна размясціліся. Ёсць дзе выстаўкі арганізоўваць. Вось і апошняя -- "Зямля Беларусі, табой мы сагрэты" -- адразу ўвагу наведвальнікаў прыцягвае.

А чытачы? Яны, гаворыць жанчына, у нас самыя розныя. Адны два раманы за год ледзьве асіляць, а ўрачу Яўгену Блоцкаму, падобна, хутка і кніжак не хопіць -- у яго фармуляр ужо некалькі лісткоў уклеены. Не радуе толькі Ганну Максімаўну, што сёння кніжка сотню рублёў каштуе, з навінкамі асабліва не разгуляешся. Трывожыць, што многія, шукаючы Агату Крысці, адкладваюць убок Купалу, Дастаеўскага, Талстога. Што ж, кожнаму сваё...

А для сапраўдных аматараў кнігі ў бібліятэцы розныя мерапрыемствы арганізоўваюць. Тое ж "Поле цудаў", напрыклад. Тэма -- творчасць Багдановіча, Цвятаевай... Пераможцам -- прызы-кніжкі.

Так што ідуць людзі на бібліятэчны агеньчык. Бо іх заўсёды да святла цягне. А таму -- не трэба панікаваць. Выжывем!

Уладзімір БЫЧЭНЯ.

□ *РЭПАРТАЖ*

# БЕЛАРУСКІ ВАКЗАЛ У МАСКВЕ

Маскоўскія вакзалы чымсьці нагадваюць цяпер вакзалы перыяду грамадзянскай вайны. Гэтак жа даюць прытулак бомжам, прастытуткам, зладзеям, становяцца месцам, дзе "квітаюцца" злачынныя групы, "Меккай" спекулянтаў і перакупшчыкаў.

Але Беларускі вакзал у Маскве -- адзін з лепшых. І не толькі таму, што ўвасабляе сабой заходні напрамак. Як лічыць начальнік вакзала Уладзімір Іванавіч Бараўкоў, прыстойны выгляд вакзала -- вынік найвялікшых намаганняў калектыву.

Яшчэ зусім нядаўна, у час вядомых шоп-тураў на Варшаву, на Беларускім было стоўпатварэнне. Нашы дамарослыя камівояжоры з усіх канцоў Расіі і блізкага замежжа сцякаліся на Беларускі з велізарнымі сумкамі і вядомымі на ўвесь свет "гарбачамі" -- каляскамі для ручной паклажы, набітымі самымі рознымі таварамі. Пасажырапаток узрос у дзесяткі разоў. Людзі рваліся на Варшаву па "навар". І крый божа каму-небудзь стаць на іх шляху: "разборкі" здараліся самыя жорсткія.

Едуць і сёння "мяшэчнікі", дакладней, "калясачнікі", за мяжу, але такога паломніцтва ўжо няма, паколькі Польшча прыняла шэраг абмежавальных мер для рэгулявання патоку "гасцей". Беларускі, нарэшце, змог перавесці дух.

Калектыў супрацоўнікаў у гэты кароткі прамежак часу паспеў прыняць і ўкараніць шэраг новаўвядзенняў. Перш за ўсё наведзены парадак у продажы чыгуначных білетаў: цяпер яны сталі імяннымі з абавязковым указаннем прозвішча пасажыра. Пасадка ў поезд ажыццяўляецца пры прад"яўленні пашпарта. Білет можна здаць і набыць толькі праз касу. Кожны, хто паспрабуе праехаць па чужому праязному, заплаціць штраф. Дарэчы, гэтае новаўвядзенне маскоўскія чыгуначнікі ўвялі пасля нарады ў мэра, дзе адбылася вельмі занепакоеная размова аб паляпшэнні работы ўсіх чыгуначных службаў. Працуюць і службы дастаўкі загадзя заказаных білетаў, а самі праязныя дакументы цяпер можна заказваць у касах не за 45 дзён, як раней, а за 30. Ёсць магчымасць заказаць білет "туды--назад".

Зладжана на вакзале працуюць тэлеграф, пошта, камеры захоўвання, пакой маці і дзіцяці. У залах дзяжураць служачыя, на сваім пасту медыкі, міліцыя. Дарэчы, уваход у залы чакання выключна па праязных білетах. Хто жадае трапіць туды без такога, павінен заплаціць за ўваход 25 рублёў. Для тых, хто чакае поезда або не трапіў у гасцініцы, на запасных пуцях стаіць "спальны састаў", у якім заўсёды можна знайсці прытулак і адпачынак. Справўна працуюць кафэ і буфеты.

Карацей кажучы, сёння на Беларускім створана атмасфера спакою і ўжыўчывасці -- што характэрна для беларусаў. Тут з-за ўсякай дробязі за нажы і пісталеты не хапаюцца. У залах чакання -- людзі самых розных нацыянальнасцей і прафесій. Вядома, хацелася б, каб побач са шматлікімі кіёскамі Мінтранса і газеты "Гудок" з"явіліся прылаўкі з беларускімі газетамі, кнігамі, нацыянальнымі сувенірамі... Але хто гэтым зоймецца?

Пакрысе наводзіцца парадак на прывакзальнай плошчы і на тэрыторыі вакол вакзала. Тут няма ўжо таго "базару" і хаатычнага нагрувашчвання "камкоў" з іх брудам, няма і прадаўцоў "з рук" моцнымі напіткамі. Стала чысцей, а галоўнае -- спакайней, бо спыніліся бясконцыя "разборкі" рэкеціраў за месца "пад сонцам", за права спагнання даніны.

Вядома, вакзал ёсць вакзал. Ён -- своеасаблівая дзяржава ў дзяржаве. Тут, кажучы амаль не фігуральна, і нараджаюцца, і праходзяць "універсітэты", і расквітваюцца, і сядзяць у кутузках, і паміраюць. Практычна немагчыма збавіцца ад бомжаў. Ды і дзе іх сёння няма. Кажуць, нават у Крэмль пранікаюць. А ў бягучым стагоддзі не дачакацца ім бясплатных начлежак ад мэрыі. Яшчэ адна праблема -- усё больш паяўляецца беспрытульных дзяцей. Каб неяк выжыць, яны, як шчаняты, збіваюцца разам, становяцца лёгкай здабычай бывалых зладзеяў, рэцыдывістаў, прастытутак. А лепшы спосаб зарабіць на хлеб надзённы -- красці ці гандляваць сваім целам. Дарэчы, "інтымны" бізнес працвітае ў сталіцы ўсюды. Праўда, у зорных атэлях прадаюцца за валюту. Ну, а на вакзалах нярэдка і за бутэрброд ды глыток вінца...

А што паязды? Яны ўсё ж ходзяць па раскладу, функцыяніруюць і вядомыя фірменныя "Беларусь", "Мінск". Нават у гэтыя цяжкія гады яны змаглі выстаяць і захаваць сваю марку. Скажу па сакрэту: у іх яшчэ да гэтага часу чай падаюць!

Ірына ГАРАНІНА,
БЕЛІНФАРМ.



## БЛІЗНЯТЫ — ЦЯЖКААТЛЕТЫ

*Фёдар і Эдуард Дударэвічы -- браты-блізняты. І хобі ў іх адно. Абодва займаюцца гіравым спортам. Жывуць хлопцы ў пасёлку Бальшавік Мінскага раёна. Калі вучыліся ў 10-м класе, вырашылі паспрабаваць свае сілы ў гіравым спорце. Пад кіраўніцтвам трэнера Іосіфа Прачкоўскага яны пачалі прымаць удзел у спаборніцтвах. Пасля заканчэння школы браты-першаразраднікі набылі спецыяльнасць повара. Што ж, чарпак таксама неблагі трэніровачны інструмент.*

***Юрый ЛОЙКА.***

***НА ЗДЫМКУ:** паспрабуйце адгадаць, дзе Эдуард, а дзе Фёдар.*

***Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.***

□ *Хозяйке на заметку*

# НЕХИТРЫЕ ХИТРОСТИ

**Из старых капроновых чулок можно сделать мочалку для мытья посуды. Смоченным в холодной воде капроновым чулком можно до блеска вымыть зеркало, стеклянную и хрустальную посуду. Фарфоровая, алюминиевая и эмалированная посуда, даже очень жирная, также отлично отмывается и блестит, если ее слегка потереть намыленной капроновой мочалкой.**

***

**Если в кладовке или буфете, где хранятся пищевые продукты, поставить сосуд с измельченным древесным углем, то он поглотит все посторонние запахи и предохранит продукты от быстрой порчи. Время от времени уголь нужно менять.**

***

**Запах селедки с ножей и вилок улетучится, если смазать их растительным маслом и протереть полотенцем.**

***

**Для удаления накипи прокипятите в посуде воду с картофельными очистками.**

***

**С помощью кофейной гущи хорошо мыть бутылки из-под растительного масла.**

***

**Пыльные электрические лампочки дают на 50 процентов меньше света, чем чистые. Вот почему их надо регулярно протирать тряпочкой, смоченной мыльным раствором, в который добавлено немного нашатыря. После этого насухо вытереть чистой фланелью.**

***

**Можно налить несколько капель духов или одеколона на незажженную электрическую лампочку. Стоит включить ее, и по комнате распространится аромат.**

***

**На предварительно вычищенный пылесосом или щеткой ковер рассыпьте влажные чаинки спитого чая. Теперь тщательно выметите их щеткой. Если надо освежить краски ковра, протрите его тряпкой, смоченной столовым уксусом.**

***

**Мыло, которое хранится в сухом месте, служит в три раза дольше сырого.**

***

**Трикотажная одежда становится как бы подкрахмаленной, если ее выгладить через ткань, увлажненную мыльной водой.**

***

**Запах табака в комнате устраняется, если открыть окна и положить в разных местах комнаты два-три мокрых махровых полотенца.**

***

**Чтобы сырые дрова быстро разгорелись, не надо поливать их керосином, достаточно посыпать щепоткой крупной соли.**

***

**Чтобы ускорить заточку ножей, надо положить их на полчаса в соленую воду.**

■ Олимпиада для детей-инвалидов

# С ПОБЕДОЙ ВЕРНУЛИСЬ ДОМОЙ

**В Зальцбурге (Австрия) закончились зимние Олимпийские игры для детей-инвалидов и детей с недостатками умственного и физического развития по программе Спешиал Олимпикс Интернешнл. Восемь дней и ночей горел Олимпийский огонь над центральной площадью Зальцбурга -- Моцарт-плятц. Доставили огонь из Афин самолетом, а зажег его известнейший во всем мире киноактер и спортсмен Арнольд Шварценеггер.**

С поздравлением к олимпийцам обратились президент Республики Австрия доктор Томас Клестил, сенатор Кеннеди и господин Шрайвер, организатор всемирного движения для детей-инвалидов Спешиал Олимпикс Интернешнл. Благословил на честную игру и победу спортсменов папа Римской католической церкви Иоанн Павел II. Спонсорами Олимпиады были известнейшие во всем мире фирмы и компании "Кока-кола", "Адидас", "Мерседес-Бенц", "Мэмс" и другие.

64 страны мира привезли на эти состязания своих спортсменов. Республику Беларусь представляли 33 школьника из Витебской, Ратомской, Бегомльской и Бешенковичской специальных школ-интернатов. Наша команда выступала по лыжному, горнолыжному, конькобежному спорту и хоккею. Лучшие спортивные сооружения города Зальцбурга -- ледовый олимпийский комплекс, большой спортивный дворец, лыжные и горнолыжные базы в Шладминге были отданы спортсменам-инвалидам.

Около тысячи судей и 5 тысяч волонтеров ежедневно бесплатно обслуживали соревнования. Добровольцы-студенты, жители Австрии ежеминутно предлагали свои услуги детям. С благотворительными концертами ежедневно перед ребятами выступали знаменитые артисты эстрады, цирка, кино, балета. А выступления знаменитого ледового ансамбля под руководством наших соотечественников Олега Протопопова и Людмилы Белоусовой буквально покорили всех. Были и официальные встречи нашей команды с этими знаменитыми спортсменами, а также белорусской гимнасткой Ольгой Корбут, которая на сей раз и была нашим спонсором, с президентом Спешиал Олимпикс Интернешнл господином Шрайвером, сенатором Кеннеди, которые интересовались развитием инвалидного движения в нашей республике, предлагали конкретную помощь, а также дали высочайшую оценку выступлениям нашей команды, занявшей 3 место, пропустившей вперед лишь команды Австрии и США.

Прекрасно,сверх ожиданий выступили ребята из всех четырех белорусских школ. Порадовали и воспитанники Ратомской спецшколы-интерната Минского района. Горнолыжники этой школы, которых тренировал учитель физкультуры Сергей Коптев, получили 9 олимпийских наград, в том числе 5 золотых. Абсолютными чемпионами стали Владимир Владыко, Светлана Зинкевич и Владимир Платов. Всего же нашей командой завоеваны 62 медали, из них 42 золотые, 10 серебряных и 10 бронзовых.

С заслуженной победой вас, дорогие ребята и тренеры!

Валентин ШУХ,
президент Белорусского Спешиал Олимпикса.

**Гонорар прошу перевести в благотворительный фонд "Детям Чернобыля".**

## ХАТНІ ЭКРАН

**8 красавіка, чацвер**

***Беларускае тэлебачанне***

16.30. Тэлебачанне -- школе. Гісторыя Беларусі. 5 клас.
17.00. Навіны.
17.10. Для школьнікаў.
18.00. Існасць. "Чысты чацвер".
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Абласныя навіны (Гродна).
19.10. Зачытайце маё пісьмо...
19.15. Здароўе. Чарнобыль: мінула сем гадоў.
19.35. Пазіцыя ўрада. Улада на фоне часу.
20.25. Гаворым па-беларуску.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Мачаха". Маст. фільм.
22.25. "Крок" прадстаўляе...
23.40. НІКа.
23.55. Тэлебіржа.
0.05. Футбол. "Дынама" (Брэст) -- "Днепр" (Магілёў). 2-гі тайм.
0.50. Пад купалам Сусвету.

***Канал "Астанкіна"***

16.00. Прэм'ера дак.фільма.
17.00. Навіны.
17.25. ...Да 16 і старэйшым.
18.15. "Проста Марыя". Маст. фільм.
19.00. Вялікая прагулка.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Лато "Мільён".
21.10. "Белае адзенне". 3-я серыя.
22.35. Песня-93. У перапынку (23.00) -- Навіны.
24.00. Парадыз-кактэйль.
0.45. Прэс-экспрэс.

***Канал "Расія"***

16.15. Панарама прыватызацыі.
17.00. Так і жывём.
17.30. М-трэст.
17.45. Парламенцкі веснік.
18.00. "Руская трагедыя". Частка 2-я.
19.00. Весткі.
19.25. Свята кожны дзень.
19.35. "Санта-Барбара". Маст. фільм.
20.25. У свеце аўта- і мотаспорту.
21.00. На палітычным Алімпе.
22.00. Весткі.
22.20. Зоркі гавораць.
22.25. Спартыўная карусель.
22.30. Экран крымінальных паведамленняў.
22.40. На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
23.10. Песні і вершы Ларысы Недзяляевай.

**9 красавіка, пятніца**

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.25. Фільм-балет.
9.00. Тэлебачанне -- школе. Гісторыя Беларусі. 5 клас.
9.30. "Мачаха". Маст. фільм.
10.20. Тэл.дак.фільмы.
11.50. Фільм-канцэрт.
12.30. Студыя МЭТА.
12.45. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Дынама" (Брэст) -- "Днепр" (Магілёў). 2-гі тайм.
13.30. Навіны.
13.40. Дак.фільм.
14.30. "Родная кроў". Маст. фільм.
15.55. "Школа памочнікаў". Мультфільм.
16.05. Дзіцячая тэлефілармонія.
17.00. Навіны.
17.10. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Хімік" (Гродна) -- "Беларусь" (Мінск). 2-гі тайм.
18.00. Тэл.дак.фільм.
18.20. Тэлевізійная дошка аб'яў.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Адкрыццё музычнага фестывалю "Мінская вясна". 1-е аддзяленне.
20.10. Мастацка-публіцыстычная праграма.
20.45. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Дзікае сэрца". Маст. фільм.
23.10. НІКа.
23.25. Тэлебіржа.
23.35. Адкрыццё музычнага фестывалю "Мінская вясна". 2-е аддзяленне.
00.30. "Залаты рынг".
00.50. Пад купалам Сусвету..

***Канал "Астанкіна"***

8.00. Навіны.
8.20. Джэм.
8.50. "Блакітны патруль". Маст. фільм.
9.55. Клуб падарожнікаў.
10.50. Прэс-экспрэс.
11.00. Навіны.
11.20. Ю.О'Ніл. "Доўгі дзень адыходзіць у ноч". Фільм-спектакль.
14.00. Навіны.
14.25. Брыдж.
14.50. Бізнес-клас.
15.05. Блакнот.
15.10. "Блакітны патруль". Маст. фільм.
16.15. Выступленне фальклорнага ансамбля з Ліпецка.
16.30. Справа.
17.00. Навіны.
17.25. "Дарога ў Меку. Рэпартаж паломніка з СНД".
17.45. Надвор'е.
17.50. Чалавек і закон.
18.15. Вагон-03.
18.45. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Чалавек тыдня.
20.55. "Белае адзенне". Маст. фільм. 4-я серыя.
22.15. Рэпартаж ні аб чым.
22.25. Палітбюро.
23.00. Навіны.
23.20. Музагляд.
24.00. Пляцоўка агляду. Група "Ронда".
1.00. Прэс-экспрэс.

***Канал "Расія"***

7.55. На палітычным Алімпе.
8.50. Хіт-дуэт "Галіна-Ліна".
9.20. Сам сабе рэжысёр.
9.50. Памяці І.Ром-Лебедзева.
11.05. "Санта-Барбара". Маст. фільм.
11.55. Ажылыя партрэты.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
13.25. Іжыца.
13.55. У свеце жывёл.
15.00. Тэлебіржа.
15.30. Там-там навіны.
15.45. 15-гадовы капітан.
16.15. Акно.
16.45. Уолт Дысней па пятніцах.
17.35. "Амуры заўсёды перамагаюць" і іншыя мультфільмы.
17.50. "Руская трагедыя". Частка 3-я.
18.45. Свята кожны дзень.
19.00. Весткі.
19.25. Шарман-шоу.
21.00. "К-2" прадстаўляе: "Медыа".
22.00. Весткі.
22.20. Зоркі гавораць.
22.25. Спартыўная карусель.
22.30. Давайце разбяромся.
22.45. На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
23.35. "Імітатар". Маст. фільм.




**Наш адрас:**
**220041, гор.Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".**

**ТЭЛЕФОНЫ:** прыёмнай рэдакцыі — 32-22-23, намесніка галоўнага рэдактара—32-22-61, адказнага сакратара -- 32-20-53 сакратарыята — 32-24-08, аддзелаў: Саветаў — 32-25-25, гуманітарнага — 32-10-10, сацыяльна-эканамічнага — 32-15-29, грамадска-палітычнага — 32-15-25 рэпартажу і навін — 32-15-21, пісьмаў і маральна-бытавых праблем— 32-85-12, ілюстрацыі — 32-25-20, камерцыйнага — 32-83-31, карэктарскай — 32-12-23.

Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

*ЗАСНАВАЛЬНІК – Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў.*
"Мінская праўда"-- орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

**Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА**

**Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.**
**Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.**
**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.**
**Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Камп"ютэрны дызайн А.Фірсавай,І.Лешанюк.**
*Тыраж 16923. Індэкс 63923. Зак №39.*
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12